КРЫНІЦА
№8 Кастрычнік, 2009 www.bchd.info

# ЗЬЕЗД БХД – 31 КАСТРЫЧНІКА




## 31 кастрычніка ў Менску пройдзе Зьезд Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі.

***Нацыянальная Рада БХД прыняла рашэньне: ад кожных трох заснавальнікаў на Зьезд накіроўваецца адзін дэлегат. Госьцем на Зьезьдзе можа быць кожны сябра БХД. Аплата праезду, харчаваньне, а пры патрэбе і разьмяшчэньне на ноч 31 кастрычніка будзе забясьпечана.***

Зьезд БХД будзе ня проста Устаноўчым, і не паўторам 28 лютага.

Па-першае, мы зьбіраемся правесьці яшчэ больш моцны, яшчэ больш яркі, яшчэ больш шматлюдны сход (нагадаем, у першым, паўгады таму, удзельнічала больш як 600 чалавек).

Па-другое, менавіта Зьезд 31 кастрычніка будзе вырашаць пытаньне ўдзелу БХД у прэзідэнцкай кампаніі 2010-2011. **Ці будзем мы падтрымліваць свайго партыйнага кандыдата – ці згодныя працаваць на адзінага? Ці будзем удзельнічаць у мясцовых «выбарах» 2010г.? Ці ўвогуле, зважаючы на фальсіфікацыі, абвесьцім байкот?**

Па-трэцяе, на Зьездзе 31 кастрычніка плянуецца відэапрэзэнтацыя абласных арганізацыяў і **выступы рэгіянальных лідэраў БХД**.

Па-чацьвёртае, Зьезд 31 кастрычніка мае зацьвердзіць наш адказ на крызіс – **эканамічную плятформу БХД.**

*працяг на 2 стар.*

Нарэшце, Зьезд 31 кастрычніка – гэта вырашальны момант у справе **рэгістрацыі БХД**.

Пасьля адмовы Мін’юсту і Вярхоўнага Суда статус нашай партыі стаў адным з галоўных пытаньняў перамоваў эўрапейскіх дзяржаваў з рэжымам. Кіруючыя партыі Нямеччыны (ХДС/ХСС), Літвы («Саюз Айчыны – Хрысьціянскія дэмакраты»), Польшчы («Плятформа Абыватэльска»), Галяндыі (ХДС), а таксама прадстаўнікі Францыі, Швэцыі, Чэхіі, Украіны, Бэльгіі патрабуюць ад уладаў узаконіць дзейнасьць Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. У кастрычніку–лістападзе гэтага году Рада Міністраў Эўразьвязу будзе вырашаць далейшы лёс санкцыяў у дачыненьні да кіраўніцтва РБ. Таму для нас выключна важна правесьці працэдуру паўторнай рэгістрацыі юрыдычна і палітычна ўзорна.



**Таму мы вельмі просім тых, хто выступаў заснавальнікам увесну, пацьвердзіць свой удзел у БХД.**

Зьезд 31 кастрычніка мае стаць ПАДЗЕЯЙ для усяе Беларусі.

Калі Вы жадаеце ўдзельнічаць у працы Зьезду БХД – калі ласка, зьвязвайцеся з Вашым каардынатарам, або тэлефануйце: + 375 29 5160861, Павал (рэгіёны), +375 29 7635954 Віталь (Менск).

**Жыве Беларусь!**

**Жыве – з Богам!**

*Рэдактар*



# БХД РАСПАЧАЛА КАМПАНІЮ «ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ»

**Кампанія ахапіла цягам гэтага тыдня больш чым за 40 гарадоў Беларусі. Мы, хрысціянскія дэмакраты, нагадвалі беларусам, што незалежнасць – гэта падмурак існавання нашай нацыі. Пагрозы гэтай каштоўнасці існуюць як унутры, так і звонку краіны.**

20 верасня ў Бабруйску, Воршы, Віцебску, Гародні пачалася акцыя ў абарону роднай мовы ў межах кампаніі «За незалежнасць». Сябры БХД расклеілі на цэнтральных вуліцах наклейкі з надпісам «Бог даў нам мову». Акцыя будзе працягвацца да канца тыдня.

Маладыя хрысціянскія дэмакраты правялі ў Менску шэрах акцый у межах кампаніі БХД «За незалежнасць»:

Днём 24 верасня над вуліцай Свярдлова была вывешаная расцяжка са словамі «Беларусь – не палігон». Да расцяжкі быў прымацаваны бел-чырвона-белы сцяг.

Такім чынам МХД хацела прыцягнуць увагу грамадства да прысутнасці расейскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі ў межах ваенных вучэнняў «Захад-2009».

У гэтыж дзень у неба над плошчай Перамогі актывісты МХД запусцілі 30 бел-чырвона-белых балёнікаў з бел-чырвона-белымі жа стужкамі. Такім чынам МХД яшчэ раз хацела нагадаць грамадскасці пра неабходнасць павагі да нацыянальнага сцяга.

25 верасня ў сталічным скверы Фелікса Дзяржынскага насупраць галаўнога будынка беларускага КДБ адбылася акцыя Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі ў гонар 89-годдзя камсамола Беларусі. Адзін са слоганаў, якія скарыстоўваліся падчас акцыі: «Ты запісаўся ў дабравольцы?»

Маладыя хрысціянскія дэмакраты правялі акцыю ў адказ у тым жа месцы.

«Мы звярнулі ўвагу людзей на тое, што Фелікс Дзяржынскі – адзін з тых, хто арганізаваў на нашай радзіме Курапаты», – кажа ў інтэрв’ю прэсавай службе БХД актывістка МХД Ірына Губская. «Таму замест БРСМаўскага плаката мы прапанавалі свой : «А ты запісаўся ў Курапаты?!».

Падобная акцыя прайшла і ў Магілёве. Актывісты БХД у найбольш папулярных сярод моладзі месцах












гораду развесілі плакаты з тэкстам «БРСМ – 89 год крывавай гісторыі» і спасылкай на сайт аб злачынствах камунізма *www.represii-by.info*.

Наваградская суполка БХД правяла акцыі ў рамках кампаніі «За незалежнасць»:

У нядзелю маладыя хрысціянскія дэмакраты пераймалі досьвед барацьбы за незалежнасць у беларускага патрыёта Яўгена Усюкевіча, які змагаўся за беларускую ідэю у 1941-1944 гг. За сваю дзейнасць гэты мужны чалавек адбываў тэрмін у савецкіх лагерах.

Штодня ў падрымку распачатай кампаніі актывісты расклейваюць улёткі з надпісам «Бог даў нам мову» і лагатыпам партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». Улёткі з'яўляюцца паўсюль – на аўтамабілях, шапіках, слупах, палатах.

Апроч таго ў межах акцыі плануецца правесці збор подпісаў за перайменаванне галоўнай плошчы гораду, што носіць, вядома, імя Леніна, у плошчу Міндаўга.

# БТ ПАДВЫШАЕ РЭЙТЫНГ БХД

Сустаршыні «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» Павал Севярынец і Віталь Рымашэўскі лічаць, што сюжэт пра БХД, што быў паказаны 27 верасня па БТ у праграме «Панарама», не можа пагражаць працы хадэкаў, а толькі сведчыць пра рост папулярнасці партыі сярод беларусаў.

Сюжэт пабудаваны на меркаваннях такіх персон як праваслаўны філосаф і аналітык з Расіі **Андрэй Кураеў**, кіраўніцы Віцебскай абласной арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі **Вольгі Карач**, інтэрв'ю старшыні РГА «Мір для ўсіх» **Сяргея Карчыцкага**. Заўважым, што стваральнікам сюжэту не ўдалося (як гэта было з «Маладым Фронтам») знайсці нейкія не вельмі прыемныя для актывістаў БХД кадры. Дзеля карцінкі паказаны толькі самы публічны чалавек БХД – **Павал Севярынец** з мегафонам у руках, які жагнаецца перад натоўпам, ды чамусьці анархісты падчас аднаго з апазіцыйных шэсцяў. Ідэя: БХД – гэта нешта кшталту секты, якая базуецца насамрэч не на хрысціянстве, а змагаецца толькі з геямі ды камуністамі, а таксама вельмі любіць вулічныя акцыі.

*– За апошні год колькасць анкетаваных сябраў «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» вырасла ў чатыры разы, мы правялі шэраг паспяховых кампаніяў, усталявалі партнэрскія дачыненні з наймацнейшымі хрысціянска-дэмакратычнымі партыямі Еўразвязу. Адсюль – страх, хлусня і нянавісць па БТ,* – заўважае **Павал Севярынец**.

*– Для нас не сталася нечаканасцю з'яўленне гэтага сюжэту. Мы раней самі паведамілі, што нам вядома пра тое, што вядуцца здымкі, да нашых сябраў падыходзяць з бруднымі прапановамі. Але, пагадзіцеся, блокбастэру тут не атрымалася. Хутчэй, стваральнікам дапамаглі некаторыя прадстаўнікі апазіцыі,* – адзначыў **Віталь Рымашэўскі**.

**Незалежны беларускі тэлеканал «Белсат» прапанаваў даць адказ на паклёпніцкі сюжэт, што прайшоў у нядзелю па Першым нацыянальным тэлеканале ў праграме «Панарама».**

Улічваючы, што БТ не прадастаўляе трыбуну апазіцыйным палітыкам, прапанова «Белсату» дае магчымасць лідэру БХД завочна даць адказ на бруд, які выліла на хрысціянскіх дэмакратаў беларускае тэлебачанне.

Здымкі адбудуцца ў бліжэйшыя дні.

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі»*

# КАРЛ БІЛЬДТ: РАШЭННІ НАКОНТ КРЭДЫТАЎ БЕЛАРУСІ БУДУЦЬ ПРЫМАЦЦА З УЛІКАМ І ПАЛІТЫЧНЫХ КРЫТЭРАЎ

**На сустрэчы з дэлегацыяй беларускай апазіцыі ў Стакгольме міністр замежных спраў Швецыі Карл Більдт заявіў, што пры накіраванні крэдытаў Беларусі будуць фігураваць не толькі эканамічныя, але і палітычныя крытэры. Пра гэта прэсавай службе «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» паведаміў лідэр БХД Павал Севярынец, які знаходзіцца ў складзе беларускай дэлегацыі.**



Акрамя таго, як зазначыў **Карл Більдт**, Еўразвяз прарэагуе на жорсткі разгон учорашняй акцыі салідарнасці ў Мінску.

У сваім выступе **Павал Севярынец** нагадаў міністру пра існаванне палітвязняў у Беларусі, нерэгістрацыю БХД, сітуацыю вакол царквы «Новае Жыццё» і артыкул 193-1, які прадугледжвае крымінальную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Нагадаем, Беларускую дэлегацыю ў складзе **Павала Севярынца**, **Аляксандра Казуліна**, **Анатоля Лябедзькі**, **Уладзіміра Навасяда**, **Артура Фінькевіча**, **Аляксея Януковіча**, **Таццяны Равякі**, **Жанны Ліцвіной** і **Аляксандра Лагвінца** запрасіла ў краіну Міністэрства замежных спраў Швецыі.

У праграме візіту сустрэчы са шведскімі парламентарамі, губернатарам Стакгольму, міністрам замежных спраў Швецыі Карлам Більдтам, прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый.

Зазначым, што Швецыя зараз старшынствуе ў Еўразвязе.

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі»*

# КІРАЎНІЦТВА ЛІТВЫ СУСТРЭЛАСЯ З ДЭЛЕГАЦЫЯЙ БЕЛАРУСКАЙ АПАЗІЦЫІ



*Прэм'ер-міністр Літвы Андрус Кубіліюс*

**На сустрэчах з міністрам замежных спраў Літвы Вігаўдасам Ушацкасам і прэм'ер-міністрам Андрусам Кубілюсам гаворка вялася пра наяўнасць у Беларусі палітвязняў, нерэгістрацыю БХД, праблемы дэмакратызацыі краіны, паведаміў прэсавай службе партыі лідэр БХД Павал Севярынец.**

У размове з **Вігаўдасам Ушацкасам** было зазначана, што дата прыезду прэзідэнта Беларусі – 16 верасня – якраз прыпадае на Дзень салідарнасці і на дзесятую гадавіну знікнення палітыка **Віктара Ганчара.**

– Падчас сустрэчаў і сумеснай з **Андрусам Кубілюсам** прэсавай канферэнцыі прадстаўнікі літоўскага ўраду казалі, што іх хвалююць пытанні дэмакратыі ў Беларусі, літоўска-беларускія стасункі. Кіраўніцтва Літвы хоча бачыць сваёй суседкай незалежную і дэмакратычную Беларусь. Мяркую, што пытанні наконт палітвязняў, нерэгістрацыі БХД і іншыя будуць агучаныя і на сустрэчы кіраўніцтва Літвы з **Аляксандрам Лукашэнкам**, – кажа **Павал Севярынец.**

**Павал Севярынец, Аляксандр Казулін і Анатоль Лябедзька** сёння бралі ўдзел у міжнароднай дыскусіі ў літоўскім Сойме, прымеркаванай да Міжнароднага дня дэмакратыі, які адзначаецца 15 верасня.

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі»*

# ДВУ



Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ

***Дарагія чытачы!***
***Прапануем Вашай увазе ДВУБОЙ. Кожны нумар газэты два лідэры БХД спрачаюцца па найбольш вострых і важных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі, стасункі з ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне.***
***Пераможцу вызначыце Вы! Сёння – другі паўфінал: «Вы за мажарытарную ці зьмяшаную палітычную сістэму?»***



*прадпрымальнік*
## Кастусь Жукоўскі:
## «Новы лад жыцця – значыць новая выбарчая сістэма»

Па-першае, трэба высветліць, якая сістэма лепшая увогуле – ці для Беларусі.

Калі увогуле, то прапарцыйнай сістэмай карыстаюцца усе краіны Еўразвязу, калі праходзяць выбары ў Еўрапейскі парламент. У такіх краінах як Фінляндыя, Нідэрланды, Нямеччына, Велікабрытанія, Мальта выкарыстоўваецца таксама прапарцыйная сістэма для выбараў у парламенты сваіх краін. У той жа час у Польшы, ва Украіне, Францыі паспяхова выкарыстоўваецца мажарытарная сістэма. У Расеі выкарыстоўваецца увогуле сумесная сістэма, калі чалавек мае 2 галасы – адзін голас ён аддае за чалавека – асобу, другі - партыі. Прычым ва усіх гэтых асноўных сістэмах існуюць свае асаблівасці. Тут трэба улічваць краіну і яе палітычную сістэму.

Для Беларусі на мой погляд у сенняшніх умовах якая б сістэма ні была – вынік адзін, а дакладней ніякага. Сэнсу удзельнічаць у выбарах, каб прадстаўляць інтарэсы абраўшых цябе грамадзян, няма – усе роўна «усенароднаабраныя» абраныя яшчэ да пачатку выбарчай кампаніі па усім вядомых прычынах. Удзел у выбарах дэмакратычных кандыдатаў – чарговая акцыя апазіцыі, якая паказвае, што у Беларусі выбараў няма. Хіба не так?

У Беларусі дэмакратычнай на першы час – час самаўсведамлення – трэба, безумоўна, мажарытарная выбарчая сістэма. Проста у такі час самаўсведамлення чалавеку патрэбны лідэр, правадыр, прыклад – гэта канкрэтны чалавек з яго светапоглядам, з яго хібамі і найлепшымі чалавечымі якасцямі. Чалавек дасягальны, з якім ён можа сустрэцца, абмеркаваць праблемы, прыняць удзел у іх вырашэнні. І канешне, гэта тутэйшы чалавек. Можа сусед, ці яскравая асоба майго гораду, раёну. Мы выраслі побач, хадзілі у адну школу. Ці проста пра яго, выдатніка спорту ці пераможцу алімпіяды, калісьці некалькі год таму пісалі у раенцы ці нашай гарадской газеце. А праз некалькі год ён, выдатны кіраўнік нашай мясцовай фабрыкі ці завода вывеў наша прадпрыемства на міжнародны ўзровень і пра наш маленькі гарадок зараз ведаюць далёка за мяжой. Вось ен – чалавек, якому я давяраю свой голас, бо упэўнены: ён можа зрабіць яшчэ шмат добрых спраў. А пра партыі я, просты выбаршчык, які мала цікавіўся раней палітыкай, чуў вельмі мала. Акрамя назовы ды шумных «палітычных судовых спраў» ды шчэ пары акцый хіба што нічога. А акрамя іменаў лідэраў, якія сядзяць недзе там у Менску, я не ведаю нікога, ніякага канкрэтнага чалавека. І было б файна, калі б мой выбітны зямляк, якога я выбраю і які зрабіў шмат для маго гораду ці раену, быў бы і актывістам партыі Севярынца, пра якога я чуў шмат як пра выбітнага і дзейснага чалавека.

Але калі разглядаць доўгі тэрмін, то тут я выбіраю сумесную сістэму. Чалавек мае два галасы. Адзін ен аддае за канкрэтнага чалавека, асобу. Другі – за партыю - за сістэму, якая ужо паказала сябе як лідэраў часу, як партыю, якая сапраўды мае шмат прыхільнікаў, мае уплыў у грамадстве, і, галоўнае, яна адстойвае мае інтарэсы, грунтуецца на такіх жа каштоўнасцях як і я. І гэта вельмі важна. У парламенце маей краіны (і не важна як яго называюць – Нацыянальны Сход ці Сойм ці яшчэ як) прадстаўлены і асобы, за якіх мы галасавалі, і партыі, якія адстойваюць мае інтарэсы. Так забяспечваецца, на мой погляд, сапраўдная дэмакратыя: прынцып поліпартыйнасці (інчай адкуль нам браць тыя самыя партыі?) і свободу выбара, бо, калі я не бачу партыйнага чалавека, які б мог прадставіць мае інтарэсы як асоба, я галасую за увогуле непартыйнага чалавека.

Безумоўна, я прытрымліваюся погляду, што ў Беларусі павінна быць сумесная, прапарцыйна-мажарытарная сістэма. Давайце будзем аб'ектыўныя. Ці не такая сістэма забяспечвае найбольшае прадстаўленне інтарэсаў? Для выбараў у Еўрапейскі парламент добрая прапарцыйная сістэма выбараў . Для Францыі добрая і мажарытарная. Для Беларусі патрэбны новы лад жыцця і сістэма выбараў таксама. І тут на мой погляд найлепшая сумесная - прапарцыйна-мажарытарная сістэма.

# Б О Й

***Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон – +8 029 516 08 61, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці пошту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазначце прозьвішча – за каго аддаеце Ваш голас).***

***Пераможца ДВУБОЮ па выніках Вашага галасаваньня выходзіць у наступны тур! Таксама прымаюцца заяўкі на ўдзел у ДВУБОІ.***



*У першым паўфінале, прысьвечаным пытаньню **«Вы за прэзыдэнцкую ці парлямэнцкую рэспубліку?»**, перамогу зь лікам **76 : 46** атрымаў прыхільнік сямейнай незалежнасьці **Леанід Скарабагаты.***



*міжнародніца*

## Наталля Васілевіч:

### «Для Беларусі дэмакратычнай мы выбіраем мажарытарную палітычную сістэму»

Па-першае, трэба узгадаць, што у Беларусі выбары маюць тры ступені: мясцовыя, парламенцкія і прэзідэнцкія. Калі мы разглядаем выбарчыя сістэмы, то варта усведамляць, што на розных узроўнях найбольш эфектыўныя розныя сістэмы выбараў. Я прапаную разгледзець парламенцкі узровень.

Па другое, што ўяўляе сабой мажарытарная і прапарцыйная выбарчая сістэма? Мажарытарная – сістэма, калі чалавек аддае свой голас за канкрэтнага кандыдыта, прапарцыяная – вызначаецца рэйтынг партый, згодна якога і размяркоўваюцца месцы у парламенце. Насамрэч існуе нашмат больш розных сістэм. Але асноўныя іх прынцыпы легка звесці да гэтых двох. Якая сістэма выбараў больш дэмакратычная - гэта пытанне другаснае, бо самі па сабе выбары – ужо прыкмета дэмакратыі.

На мой погляд, для Беларусі найбольш прыдатнай з'яўляецца мажарытарная выбарчая сістэма. Пры такой выбарчай сістэме чалавек аддае свой голас за канкрэтнага чалавека, у адрозненні ад прапарцыйнай. Галоўная мэта выбараў – абранне дзеяздольнага ураду, які можа рабіць рэформы, каб палепшыць грамадскі стан жыцця, а не піяр-акцыі. Пры прапарцыйнай сістэме выбараў часта у парламент праходзяць шмат розных партый, якія не могуць адны нічога зрабіць, не могуць уплываць на прыняцце рашэнняў. І тады на штаб-кватэрах гэтых партый арганізуюцца кааліцыі, партыі ідуць на кампраміс, і у выніку адыходзяць ад заяўленых на выбарах праграм. Пры мажарытарнай жа сістэме партыя вылучае сваіх кандыдатаў, якія, па-першае, маюць большую сувязь з грамадскасцю на канкрэтнай выбарчай акрузе, па-другое, па статыстыцы пры такой сістэме большую частку парламента складаюць дзьве-тры моцныя партыі, і моцная дзеяздольная апазіцыя, якая, у выпадку незадавальнення выбаршчыкаў, можа змяніць уладу. Тут ідзе абнаўленне кіруючых кадраў.

Мы ўсе глядзім на Эўропу, і хочам змаляваць іх дэмакратычную сістэму на Беларусь. У большасці там прапарцыйная сістэма. Але усю яе вастрыню змякчае актыўная пазіцыя грамадзян, якія заўседы могуць адстаяць сваю пазіцыю. У Беларусі такой практыкі няма. Ва умовах Беларусі абраны па прапарцыйнай сістэме парламент можа мець два вынікі. Першы – пры моцнай прэзідэнцкай уладзе – прывядзе да аўтарытарызму, як гэта есць зараз. Другі – да анархіі , як ва Украіне. Толькі дзеяздольны парламент можа гарантаваць стабільнасць краіны. Яшчэ адзін варты прыклад, на мой погляд. Калі ў 20-х гадах у Германіі абралі урад па прапарцыйнай сістэме, як бывае найчасцей у такіх выпадках, ен аказаўся недзяздольны. Тут аб'ядналіся экстрэмісцкія партыі, а да чаго гэта прывяло – мы добра ведаем. У той жа час мажарытарныя выбары ў Велікабрытаніі – добрая практыка абрання ураду, які фактычна кірує краінай у гістарычна манархічнай краіне. Прычым сістэма выкарыстоўваецца больш за стагоддзе і ніколі не выклікала папроку. Што мы хочам – стабільную краіну ці вялікі палітычны бардак?

Таму для Беларусі, на мой погляд, патрэбная мажарытарная выбарчая сістэма. У нас не так шмат грошай, каб праводзіць некалькі тураў выбараў. Выбаршчык расстаўляе па рэйтынгу кандыдатаў, а тады, калі няма абсалютнай большасці па «першых нумарах» улічваюцца «другія». Гэта дае магчымасць за адзін раз правесці два туры выбараў. Так па статыстыцы у Беларусі на другі тур прыходзіць нашмат менш выбаршыкаў пры тых жа грашовых выдатках.

Сення ў Беларусі мажарытарная сістэма, але апазіцыя, аб'ядноўваючыся, не мае палітычнай платформы і не можа перамагчы. Ды й як можна казаць пра выбары у краіне дзе іх фактычна не існуе? Тут вядомая савецкае прыслоўе «выбар без выбару».

Для Беларусі дэмакратычнай мы выбіраем мажарытарную палітычную сістэму.

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*У кожным нумары газэты мы друкуем матар’ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем* **Льва Сапегу**.

***Абярэм Імя Беларусі разам!***





# Леў Сапега

О, гэта быў сапраўдны Леў!

Леў Сапега – найвялікшы канцлер Вялікае Літвы за ўсю яе гісторыю. Дзяржаўнік. Дыплямат. Палітык. Вайскаводзец. Увасабленьне беларускае сілы: спакойнай, мудрай, стрыманай, але па-львінаму ўладарнай.

Леў Сапега нарадзіўся ў родавым маёнтку Астроўна, і шасьцігадовым ільвянём быў аддадзены на выхаваньне Мікалаю Радзівілу Чорнаму ў Нясьвіж. Пераемнасьць цароў Залатога веку сымбалічная тым больш, што адбылося гэта ў кульмінацыйным для Беларусі 1563-ім – год падзелу Старога і Новага Запаветаў беларускае гісторыі.

Малады Сапега атрымаў бліскучую адукацыю ў Нясьвіскай кальвінскай школе й Ляйпцыгскім унівэрсытэце: ужо ў студэнцкім узросьце свабодна валодаў пяцьцю мовамі. Правіў сябе і як сьмелы вайскаводзец пад кіраўніцтвам Сьцяпана Батуры ў 1579-82 гг., і як агрэсіўны дыплямат, кіраўнік пасьпяховага пасольства ў Маскве ў 1584 г., і як кваліфікаваны законатворца ў вялікакняскае канцылярыі. У выніку 32-х гадовы Леў Сапега дасягае вяршыні беларускае ўлады – робіцца Канцлерам ВКЛ.

Леў Сапега – бацька III Статуту Вялікага Княства, самага поўнага й дасканалага збору законаў ва ўсёй тагачаснай Эўропе. Канстытуцыйная манархія, шляхецкая дэмакратыя й дзяржаўная незалежнасьць Вялікага Княства шмат у чым былі ягонай заслугай. І беларускую сілу – сілу біблійных асноваў права, сілу цярплівае талеранцыі, сілу богабаязнае пакорлівасьці перад законам і хрысьціянскага пачуцьця справядлівасьці – здолеў сфармуляваць у знакамітых артыкулах Статута менавіта ён.

У гэтай ўражвальнай сіле права (а не ў праве сілы, як было тады навокал) заключалася і эфэктыўнасьць ягонае палітыкі, і моц дзяржавы ў часы ягонага кіраваньня. Львіная доля нацыянальнага посьпеху напрыканцы XVI – напачатку XVII стагодзьдзяў належыць асабіста Сапегу.

Постаць аграмаднае сілы й мужнасьці, ён унушаў страх і павагу. І, як Ісус, «Леў з калена Юдавага, корань Давідаў», ён заўжды застанецца для Беларусі нацыянальным вобразам пераможнае магутнасьці.

Грозную ільвіную драпежнасьць Сапегі напоўніцу вычула Масква ў 1604-12 гг. Гэта Сапега стаяў за імклівай і дзёрзкай інвазіяй, авантурай Ілжэдзьмітрыяў Смутнага часу. Гэта Сапегу ўдалося тое, чаго не маглі зрабіць ані Альгерд, ані Вітаўт, ані Астроскі – захапіць Маскву й паразіць усходнюю імпэрыю ў самым яе логве. І хаця ў выніку львіных нападаў, раптоўных і жорсткіх, ВКЛ вярнула сабе Смаленск, Старадуб, Невель, Себеж ды Ноўгарад-Северскі, зброя не прынесла нам вырашальнае перамогі.

Ня ў гэтым была беларуская сіла. І Сапега тое адчуваў найвастрэй.

Зь юнацтва кальвініст, у маладосьці праваслаўны, са сталасьцю каталік, Сапега-хрысьціянін па-беларуску спалучаў у сабе вартасьці ўсіх трох канфэсіяў, сэрцам намацваючы залатую сярэдзіну. Больш таго: Сапега-канцлер такім чынам яднаў сабою ўсю рэлігійна разнародную дзяржаву. Яскравы ўзор «Крэда Скарыны», ён стрымліваў ад фанатычнага фарысейства краіну – пачытайце хаця б ягоны вядомы ліст да Язэфата Кунцэвіча.

Адданы вернік і дзяржаўнік, ужо стары Сапега ахвяраваў амаль усю сваю маёмасьць на ўтрыманьне войскаў падчас вайны са Швэдзіяй у 1625-29 гг.

Як праведнік, ён дажыў да глыбокае старасьці. Царская грыва Залатога веку яшчэ палала з закатнай ярасьцю – а ён, нястомны, парадкаваў Літоўскую Мэтрыку ў сьвятле гэтага жаркага вогнішча.

Леў Сапега, наш Канцлер Львінае Сэрца.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ: ХРЫСЦІЯНСКІЯ КАШТОЎНАСЦІ ПАВІННЫ СТАЦЬ АДНЫМ З ПАДМУРКАЎ НЕЗАЛЕЖНІЦКАГА БЛОКУ

**Новае кіраўніцтва Партыі БНФ заявіла пра свой намер стварыць кааліцыю апазіцыйных сілаў, якая будзе кіравацца выключна беларускімі інтарэсамі. Нагадаем, лідэр Партыі БХД Павал Севярынец ужо даўно казаў пра неабходнасць стварэння такога незалежніцкага блоку. Як старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч разглядае зараз перспектывы нацыянальнай кааліцыі, супрацу з блізкімі па поглядах структурамі? Пра гэта Янукевіч распавядае ў інтэрв'ю прэс-службе БХД.**



***– Кім з'яўляецца для Партыі БНФ «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя»?***

– Ролю БХД я лічу вельмі важнай. Партыя мае агульную па каштоўнасцях з намі і ясную для грамадства пазіцыю. Я перакананы, што партыя мусіць існаваць у сваёй нішы. А для Партыі БНФ БХД, безумоўна, з'яўляецца вельмі важным партнэрам і хаўруснікам. Спадзяюся, што нашае супрацоўніцтва з БХД будзе мець трывалы і доўгатэрміновы характар. Я лічу, што рэлігія як такая павінна быць па-за палітыкай. Але хрысціянскія каштоўнасці аб'ектыўна ёсць і павінны заставацца адным з падмуркаў правага блоку. Без гэтага ягонае існаванне немагчыма.

***– Якія перспектывы у будучага незалежніцкага блоку?***

– Я лічу, стварэнне такога блоку ў бліжэйшы час цалкам рэальна. Бо гэта не штучная ідэя, узятая з паветра. Аб'яднанне правых сілаў запатрабавана сучасным жыццём і самім беларускім грамадствам. Пэўныя перамовы мы вядзем ужо цяпер, і, я думаю, што цягам бліжэйшых месяцаў арганізацыйна і структурна блок можа аформіцца.

***– Што на мэце ў новай кааліцыі?***

– Асноўнае ў новым блоку – гэта гуртаванне ўсіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў дзеля таго, каб у краіне найхутчэй адбыліся перамены, каб Беларусь была сапраўды свабоднай і сапраўды беларускай і еўрапейскай.

***– Як будуць складвацца стасункі правага блоку з іншай часткай беларускай апазіцыі?***

– Для нас, натуральна, важна не канфрантаваць з іншымі суб'ектамі і партыямі, а супрацоўнічаць. І калі мы будзем знаходзіць шляхі супрацоўніцтва і здольныя будзем дамаўляцца – мы будзем гэта рабіць. Што тычыцца ўнутрыблокавых стасункаў, то Партыю БНФ мы бачым у перспектыве ядром, асноўнай сілай незалежніцкага блоку, але, безумоўна, не кіруючай дамінантай, што падмінае пад сабе іншых.

***– Ці зменіцца стаўленне ўладаў да апазіцыі з стварэннем незалежніцкага блоку?***

– Стаўленне уладаў да новага блоку – апошняе, пра што нам цяпер варта клапаціцца. Я перакананы, што пасля таго, як мы здолеем аформіць наш блок і пачнем дзейнічаць сумесна, то ўлада адчуе з'яўленне рэальнай сілы, якае мае падтрымку людзей. І менавіта гэтай сваёй сілай мы зменім стаўленне ўлады да сябе. А не спробай пустых ультыматумаў ці напрошвання на дыялог.

*Прэсавая служба «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі»*

# БЕНЭДЫКТ VXI:

## ПАЛІТЫЧНЫ ШЛЯХ ЛЮБОВІ НЕ МЕНШ ПРЫДАТНЫ ЗА ЛЮБОЎ, ЯКАЯ НЕПАСРЭДНА ДАТЫЧЫЦЬ БЛІЖНЯГА



**Каталіцкая Царква у сваім сацыяльным вучэнні выказвае ўласны погляд на падзеі, якія адбываюцца ў сучасным зменлівым свеце. Пачынаючы ад славутай энцыклікі «Rerum Novarum», у якой у 1891 годзе Папа Леў XIII ўпершыню сфармуляваў паняцце «хрысціянская дэмакратыя», і да сённяшняга дня Царква заклікае не толькі глядзець на падзеі свету праз прызму Божага Слова, але і рэагаваць адпаведным чынам.**

Чарговым значным дакументам сацыяльнага вучэння Каталіцкай Царквы з’яўляецца апублікаваная нядаўна энцыкліка **Бенэдыкта XVI** «Caritas in Veritate». Назва яе перакладаецца на беларускую мову як «Любоў у Праўдзе», а тэмай гэтага папскага паслання ёсць ўсебаковы погляд на развіццё чалавека і чалавечага грамадства на сучасным этапе, ва ўмовах сусветнага эканамічнага крызісу і працэсаў глабалізацыі.

Прадмова энцыклікі акрэслівае заснаваны на Бібліі кантэкст, у якім адбываецца далейшае шматстаронкавае разважанне над эканамічнымі, сацыяльнымі, палітычнымі, культурнымі праблемамі сучаснага свету. Менавіта *«любоў у праўдзе, засведчаную Хрыстом»*, Бенэдыкт XVI называе асноўнай вядучай сілай развіцця як чалавечай асобы, так і ўсяго грамадства: *«Яна змяшчае праўдзівы змест асабістых адносінаў з Богам і бліжнім; з’яўляецца не толькі прынцыпам мікраадносінаў: сяброўскіх сувязяў, сямейных, малой групы, але таксама макраадносінаў: грамадскіх, эканамічных і палітычных»*.

На вялікі жаль, Каталіцкая Царква ў Беларусі надае мізэрную ўвагу данясенню да вернікаў ўласнага сацыяльнага вучэння. Вынікам гэтага занядбання ёсць тое, што значная частка беларускіх каталікоў мае абсалютна неадэкватныя погляды на грамадскае жыццё, якія далёкія ад сфармуляванай на Бібліі афіцыйнай пазіцыі Царквы. Вялікая колькасць вернікаў стараецца ўсяляк адмежавацца ад справаў гэтага свету ды як агню баіцца слова «палітыка», хоць Царква заўжды заклікала вернікаў да хрысціянскага сведчання праз ахвярны і адказны ўдзел у справах грамадства.

Бенэдыкт XVI звяртае ўвагу, што любоў у хрысціянскім разуменні ніяк не можа зводзіцца адно толькі да пачуццяў і абавязкова мусіць быць цесна звязаная з праўдай. *«Толькі ў праўдзе любоў яснее бляскам і можа праўдзіва перажывацца. Праўда з’яўляецца святлом, якое надае сэнс і вартасць любові. (...) Без праўды любоў заканчваецца сентыментальнасцю, становіцца пустой абалонкай, якую можна адвольна напоўніць»*. Сапраўды, паняцце «любоў» у сённяшнім беларускім грамадстве, у тым ліку і ў свецкіх каталіцкіх колах, інтэрпрэтуецца занадта адвольна. Бенэдыкт XVI вызначае гэтае паняцце наступным чынам: *«Любіць кагосьці – значыць жадаць для яго дабра і плённа дзейнічаць з гэтай мэтай»*. Ці можа чалавек, які нічога не робіць для Беларусі, сцвярджаць, што ён любіць Беларусь?

Бенэдыкт XVI выказваецца пра грамадскае вымярэнне любові: *«Інстытуцыйны – можам таксама сказаць палітычны – шлях любові, не менш прыдатны і выразны за любоў, якая непасрэдна датычыць бліжняга (...). Калі любоў ажыўляе дзейнасць на карысць агульнага дабра, то такая дзейнасць мае большую каштоўнасць, чым толькі свецкую ці палітычную. Як кожная дзейнасць на карысць справядлівасці, яна ўліваецца ў сведчанне Божай любові, якое дзеяннем у часе рыхтуе вечнасць»*.

Зразумела, што у гэтым невялікім артыкуле немагчыма нават коратка пераказаць змест папскага паслання, і таму я запрашаю чытачоў «Крыніцы» звярнуцца ad fontes, непасрэдна да тэксту дакументу. Беларускамоўны тэкст энцыклікі «Caritas in Veritate» можна прачытаць на афіцыйным партале Каталіцкай Царквы ў Беларусі www.catholic.by.

***Кастусь Шыталь***

# ПЛЕНЭРЫ БХД НА ДЗІЦЯЧЫХ ПЛЯЦОЎКАХ





**У межах кампаніі «Моцная сям'я — моцная Беларусь» хрысьціянскія дэмакраты правялі сапраўдныя мастацкія пленэры на дзіцячых пляцоўках ў адным з раёнаў Менска.**

Першы пленэр ператварыў шэры плот з калючым дротам у казку: на ім зьявіўся вялізны рыжы Кот-Баюн, прыляцелі гусі-лебедзі і зазьзялі блакітныя васілёчкі-зорачкі БХД.

Гэты страшны шэры плот, што ўшчыльную прымыкае да дзіцячай пляцоўкі, агароджвае зусім не калонію ўзмоцненага рэжыма, як можна падумаць на першы погляд. За ім знаходзяцца мастацкія майстэрні. І тым не менш за шмат гадоў ніводнаму мастаку не прыйшла ў галаву ідэя падараваць крыху свайго часу і майстэрства людзям, што жывуць побач, іх бацькам, жонкам і дзецям.

Хрысьціянскія дэмакраты з дапамогай мастачкі Алесі вырашылі крыху выправіць гэтую сумную карціну. Што атрымалася, глядзіце на фота.

А затым у якасьці працягу пленэру свайго часу дачакалася і сьцяна-палатніна зь нясьціплымі памерамі 4 на 8 метраў. Працаваць прыйшлося цягам двух дзён. Галоўны аўтар кампазіцыі – студэнт-мастак Яўген з Барысава, што навучаецца ў Польшчы і так карысна праводзіць свой адпачынак на Радзіме. Свой унёсак зрабілі яшчэ тры маладыя мастакі: Алеся, Сяржук і Вольга.

А на дапамогу мастакам была выкліканая «каманда» з суседняй гімназіі – вучні 1-4 клясаў, адабраныя на сапраўднай конкурснай аснове. Напярэдадні настаўнікі прапанавалі дзеткам зрабіць малюнкі на тэму «Мая Краіна» альбо «Мая сям'я». 7 пераможцаў атрымалі магчымасьць уласнаручна паўдзельнічаць у каляровым сьвяце – і сапраўды, калі прыгледзецца, дык на малюнку сярод кветачак, зорачак, дрэўцаў, сардэчак, птушачак і сонейкаў можна знайсьці не адзін адбітак дзіцячых далонькаў.



На шырокім прасторы зьмясьціліся і цуда-птушкі, і караблік, і ровар, і нават паветраны шар. Але найвялікшай увагай маладых творцаў быў адзначаны велічэзны сабака, і таму атрымаў працяг свайго вобразу – вось такі «паварот лёсу». На пляцоўцы панавалі натхненьне, захапленьне і ўзаемаразуменьне, а вынік – відавочны! Калярова жыць не забароніш!



**Інфармацыйная камісія БХД распачынае мэдыя-праграму «БЕЛАРУСЬ – ДЛЯ ХРЫСТА!»**

**Запрашаем да супрацы:**

- рэгіянальных карэспандэнтаў для «Крыніцы», новага парталу zolak.org, сайту bchd.info, сайту represii-by.info
- праграмайстраў
- блогераў
- адмыслоўцаў у галіне сацыяльных сетак
- тых, хто жадае засноўваць ці падтрымліваць мясцовыя незалежныя сайты
- выдаўцоў або журналістаў мясцовых газэтаў
- журналістаў
- фотакарэспандэнтаў

**Мы рыхтуем:**

- стварэньне сеткі карэспандэнтаў «Крыніцы», bchd.info, represii-by.info.
- стажыроўкі ў Літве, Польшчы, Швэцыі
- заснаваньне асацыяцыі хрысьціянскіх і дэмакратычных мэдыяў
- конкурсы і супольныя праекты

Калі ласка, тэлефануйце:
8 029 7653692(Ірына)

# Абвесткі



**«Шоў Беларушчыны»**

Гэта беларуская па форме, хрысьціянская па зьмесьце дынамічная віктарына для школьнікаў і навучэнцаў з геаграфічнымі, гістарычнымі, літаратурнымі, музычнымі, спартовымі пытаньнямі, музычнымі перапынкамі з беларускімі хрысьціянскімі хітамі. Віктарына можа праводзіцца ў любой навучальнай установе як пазакласны ўрок. Пераможцы віктарыны атрымліваюць цудоўныя прызы – кнігі і дыскі. Віктарыну можна замовіць праз тэлефон: **8-029-7653692 (Ірына)**.

**Дарагія чытачы «Крыніцы»!**

Аб'яднаньне пісьменьнікаў – хрысьціянаў, якое яднае паэтаў і празаікаў, вернікаў розных канфэсіяў, праводзіць сустрэчы зь патрыётамі ды моладзьдзю, рыхтуе да выданьня альманах «Дабравест». Калі Вы хочыце пазнаёміць шырокае кола чытачоў са сваёй творчасьцю – ласкава запрашаем да ўдзелу. Умова адна: беларуская форма – хрысьціянскі зьмест.

**Тэлефон: 8 029 2003436 (Зьміцер)**



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 29 верасьня 2009
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.